ГОД ВЫДАНЬНЯ ПЕРШЫ АСОБНЫ НУМАР 40 ГРОШ.




Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
**ВІЛЬНЯ, Віленская вул., № 12, кв. 6**
«МАЛАНКА»

**№ 10**
**1 ТРАЎНЯ.**
**1926 г.**

ПАДПІСНАЯ ЦАНА:
на 1 год 8 злот.
„ паўгоду 4 „
„ тры мес. 2 „
„ адзін м. 1 „

*За* граніцу: на год—тры даляры, на паўгоду—1 д. і 50 цэнт.




Ад краю ў край, у шыр, у даль
Магутным рэхам кліч раздайся:
**«Яднайся, браце-пралетар,**
**У грамаду адну злучайся!»**

Працоўны места, дай руку
Вітай-жа брата-селяніна,
Няхай расьце працоўных лік,
Няхай жыве сям'я адзіна!

Мы адно цела, адзін дух, —
Ніхто нас ўсьвеце не разлуча,
У нашай згодзе — сіла-моц,
Ў братэрстве нашым ўсё магуча.

І хоць прыхвоснікі паноў
Нязгоду сеюць паміж намі, —
Дарэмна праца! З імі прэч!
Свой шлях мы ведаем і самі...



Усіх паважаных падпісчыкаў, чытачоў, супрацоўнікаў і сымпатыкаў „Маланкі“ віншуем з вялікім работніцка-сялянскім сьвятам 1-га Мая і жадаем у гэты дзень хоць думкай злучыцца з працуючымі усяго сьвету. Працуючыя вёскі і месца падайце ў гэты дзень брат брату рукі ў знак еднасьці, згоды, братэрства.

Хай жыве работніцка-сялянская еднасьць!

Хай жыве Першы Май!

# ВІТАЙЦЕ!

Май радосны, Май шчасьлівы,
Сьветлы, сонца поўны Май!
Беларусе, прабуджайся, —
К жыцьцю лепшаму ўставай!

Хай сягоньня ўсе клапоты
Зьнікнуць, счэзнуць, як туман,
Счэзне хай жыцьцё ліхое,
Счэзьне крыўда і абман.

Весяліся, мілы браце,
Вясну новую прымай,
Хай ў тваёй сялянскай хаце
Зьяе сонцам сьветлы Май.

Скінь турботы, скінь клапоты
Далоў з плёч сваіх хоць раз,
Аддыхні пасьля работы,
Аддыхні хоць адзін раз!

Цяжка цэлы век працуеш,
Ну, дык трэба-ж аддыхнуць,
Сам ты ў сэрцы радасьць чуеш,
Годзі сьпіну нізка гнуць!

Нам вясна дана на тое
Каб вясёлы песьні пець,
Відзець сонца залатое,
А ня плакаць і ня млець.

Дык вясела і шчасьліва
Мы спаткаем Першы Май,
Хай кіпіць ў нас кроў бурліва, —
Голаў ўгору падымай!

Мы працоўныя, то—сіла,
Моц ў мазолістых руках
Нам жыцьцё, свабода міла,
Хоць цярністы яшчэ шлях.

Ну дык, братцы Беларусы,
Хто працоўны,—руку дай!
Усе ў адну сям‘ю вяліку —
Сустракайма Першы Май!

Сёньня дзень братэрства, згоды,
Працоўны дай руку тваю!
Сёньня лучацца Народы
У адну братнюю сям‘ю.

Беларусе, што ад плуга
Й ад машыны й тапара,
Ад Дняпра, Вяльлі і Буга —
Нам яднацца ўжо пара!

У згодзе, братцы, апануем
Зямлю, нетры і ваду, —
Дык лучэмся пролетары
У Працоўну Грамаду!..

Я. М.



Крапіва.

## Цёткам навука

*(З Вялікодных здарэньняў).*

Вось пакута, дык пакута!
Стогне, енчыць цётка Ўлюта,
Ўжо канае вот—вот—вот —
Так схапіў яе жывот.

Аж ня знойдзе сабе месца...
Заўжды так, як хто аб'есца,
Вось і Ўлюце надта крута:
Сем нядзель пасьціла Ўлюта.

На Вялікдзень з галадухі,
Пасьля бульбы й саладухі,
Цётка Ўлюта, як прысела,
Дык паўшынкі зразу зьела.

Не дала, пасьля за мясам,
Яна ганьбы і кілбасам;
Гэтак сама й пірагу,
Гэтак сама й тварагу.

Гэтак сама й парасяці...
Ды ўсяму, што было ў хаце,
Яна ганьбы не давала,
Дык затое-ж ледзь устала.

А праз нейкі час патом
Стала енчыць жыватом;
Як падверне ёй пад грудзі,
— Гвалт, — крычыць, — ратуйце людзі!

Ох, саколік! Ох, Андрэй!
Па Агату йдзі скарэй!
Пакуль той прывёў шаптуху,
Дык Улюта ўжо й бяз духу.

От, браткі, была ёй мука! —
Гэта, цёткі, вам навука.



## Ня меў маткі.

*Лёкай:* Прынясьлі нейкую паперу і хочуць, каб пан падпісаў і даў складку на „бедных матак".

*Купец:* Гані іх вон к чорту! Я маткі зусім ня меў і каб ня цётка, дык мяне саўсім на сьвеце ня было-б.

*Г. Л.*



## Ажно за трох!

— Ведаеш, суседка?! Максіміха выдае сваю дачку замуж: каваль, сьлесар, гаспадар...

— Няўжо?! Ай-я-яй! За трох адразу хоча аддаць. Чыстая абраза божая!



## Я: эт, варты — звацца: „Чмуцька!"




**(Быўшы Старшыня (Прэзэс) „Белар. Саюзу Коопэратываў")**

Я: эт, варты—звацца: „Чмуцька"!
Я—той самы прэзэс цюцька,
Што з Саюзам кончыў хуць-ка—
(Як з Хрыстом калісьці „Юдзька!")
Коопэратар беларускі!
Маю хвігі на закускі...
Хто-ж бяду мог тую знаці,
Што прыдзецца пакідаці.
Дарагое места Вільню —
І Саюз — маю „кармільню",
Што мець буду лёс я горшы
Валачыцца дзесь па Польшы.
Што прыдзецца нават горай:
Бо з прэзэса—ў інструкторы, —
Як цыган па ёй цягацца?..
Ці-ж я мог так спадзявацца?!
Ліха надало вязацца
З панскім „звёнзкам", дый злучацца...
Каб ня ліха—гэты Вольскі,
Я-б ня быў „коопэр" польскі!
Я упёрты, як „Асловіч",
А разумны — як „Казловіч" —
Тып сваіх „коопэратцаў",
Гэтых двох маіх „дарадцаў".
Хоць удаўся я заўзяты,
Ды я розумам багаты:
Голаў—тыквай, мал — у косьці,
Ды затое шмат ёсьць злосьці!
Я такую лазьню спраўлю —
На сваём такі пастаўлю!—
Трасца гэтая „Маланка":
Робіць вось з мяне „паўпанка",—
Хоць „бел-панскае" угоды —
Ўмею я хаваць „да-воды"!
За маю ўсю працу шчыру,
Хоча ў голаў даць мне дзіру.

Праўда, крыху вінаваты,
Што уцёк я з роднай хаты,
Ды, як кажуць часам людзі:
„Баба з воза — лёгка будзе"!
Думаў я, што можа з часам
Панскі „звёнзак" будзе нашым—
Беларускім — наша сіла!!!
Ды ня тут то тое была —
Адваротам ліха стала,
А цяпер пішы прапала...

Наш Саюз быў багацейшы —
Меў уплыў куды шырэйшы:
Ён ня мог так хутка згінуць —
Мусіў „панскага" пахлынуць!?..
Мы-ж пры „шлюбе" прысягалі—
Вернасьць, роўнасьць абяцалі,
Абнімаліся гарача —
Потым... сталася іначай...
Як было там, ці ня была —
Праз мяне яму магіла...
А цяпер прышлося куса:
„Плюцьку" мець ад беларуса...

. . . . . . . . . . . . . . . .

Сьпі, Саюзе, ў гробе ціхам...
Хоць ў мяне кідаюць ліхам —
Я-ж той самы „прэзэс" цюцька:
Я: эт, варты—звацца: „Чмуцька"!

**Гля-гля-Бач.**



Крапіва.

## Вясковым дзеткам вясною.

Сьцёпачкі, Парасачкі —
Дзетачкі вясковыя,
Беленькія красачкі,
Вочкі васільковыя!

Што вы цяпер робіце?
Пэўна, ў школу ходзіце,
Сядзіцё за ўрокамі
З думкамі далёкімі. —

Як лужок травіцаю
Сьцелецца зялёнаю,
Раўчучок вадзіцаю
Як шуміць халоднаю.

Дзеткі ўсе з кіёчкамі
Ходзяць за плыточкамі,
Так, як-бы па Нёману —
Колькі сьмеху, гоману!

Дзе-ня-дзе ў сасоньнічку
Сьнег яшчэ хаваецца,
І зямля з прасоначку
Быццам пацягаецца...

Эх, вясна-забаўніца!..
Але вось настаўніца,
Галавы ня чухайце, —
І яе вы слухайце:

Не брашэце абы-як,
Не дражнеце вы сабак

. . . . . . . . . . . . . . . .

Хоць вясной любуйцеся,
Школы-ж не забудзьцеся!



# Хто з панамі усьцяж гуляе... пасьля плача, наракае.



Хоць вясковая дзяўчына,
А па „панску“ люблю жыць,
Люблю пудрай і парфумай
Твар падмазаць, падсьвяжыць



Хоць мой бацька глядзіць крыва
Мне на гэта напляваць;
Прэч „мужыцкія“ звычаі, —
Трэба „модаў“ пільнаваць.



Я стыджуся роднай мовы
Już po pańsku gadam ja,
Kocham pana urzędnika, —
Доля райская мая!



Ночка, ночка, дзе прапала!?
Хутка з мілым час ляціць.
Золкам я дамоў вярнуся,
Бацька хай сабе крычыць.



Вось табе і „панске“ штучкі,
На ўсе ёсьць свая чарга,
Плача бацька, плача маці,
А ў калысцы ўсе: „ку-га!“



Эх, дзяўчына ты, дзяўчына,
Марны твой паненскі лёс,
Бо чужынца маладога
З „крэсаў“ чорт кудысь панёс.

# Спракуджаны.

Гэта здарылася вельмі нядаўна.

Неяк перад зьездам расейскіх монархістых, што быў у Парыжы.

Захацелася ў Парыж і старому сябру „Союза русскаго народа“ Тодару Вярнікоўскаму.

Цяпер ён „рэдактарам“ рэптыльнае віленскае газэткі „Беларускае Слова“, але аб гэтым як-бы й саўсім запомніў стары Тодар...

А, запомніўшы, і пачуўшы, што на зьезьдзе мае вясьці рэй сам Марков II з Трэповым, пайшоў наш Тодар да віленскага галавы расейскіх монархістых, панюхаць, ці ня мог-бы ён, Фёдар Міхайлавіч, стары жаўнер расейскае чорнасоценнае раці, прабрацца ў Парыж на зьезд?

Паважна прывітаўшыся з такім самым, як і ён, зглелым расейскім эмігрантам, Тодар пачаў выкладаць свае аргумэнты:

— Я не какой-нибудь толкач, Вы знаете... Лично знаком с Марковым...

І спомніўся тут той стары добры час, калі, багатым быўшы, наш Тодар — титулярный советник—падкідаў у Менску „на гура“ гэтага-ж самага Маркова 2-га і... Пурышкевіча.

Расеец запнуўся, шукаючы словаў для адказу...

— Вы не сомневайтесь,—скарыстаў мамэнт Тодар,—я старый человек, мне незачем лгать.

Тут ён дастаў з бакавога кішаня пук папераў і, нядоўга пакапаўшыся ў іх, знайшоў невялічкую картачку, на якой угары вялікімі чорнымі літарамі было надрукована:

„Минскій Губернскій Отдѣлъ Союза Русскаго Народа“.

Далей ішоў тэкст сяброўскага білету і сярод тэксту каліграфічна выпісаны „чын“, імя і прозьвішча нашага Тодара:

„Титулярный Совѣтник Федор Михайловичъ Верниковскій“...

Але галава віленскіх монархістых адразу адцяла Тодару ўсе шляхі да Парыжу:

— Все это так... но... Вы-то ведь теперь белоруссом стали и даже редактором, как я слыхал. Это с'езд эмигрантскій... А редактором белорусской газеты в Польше эмигрант, кажется, быть не имеет права...

— Извините, г-н,—перабіў тут Тодар, — как не имеет права!? Да у нас есть и „Часовая Беларуская Рада“—вся сплошь из эмигрантов... Что-ж такое, что я редактор? Но я ведь только ответственный... Да я и писать по-белоруски не умею...

Нішто не памагала.

У дзьверы нехта пастукаў.

Монархічны віленскі павадыр падняўся з крэсла, даючы гэтым зразумець, што размова скончана.

— Очень жаль... очень жаль,— паўтараў на разьвітаньне Тодар,— я мог-бы быць весьма полезным... Лично знаком с Марковым, да и не один он там из знакомых...

Выходзячы Тодар ледзь ня стукнуўся лобам з адным зеленадубцам, якога ён прывітаў, моцна гукнуўшы:

— І ты тут, таўкач! Не суйся даже... Всё мы испортили этою глупою игрою в белоруссы...

Зеленадубец не адказаў нічога. Тодар выйшаў на вуліцу і доўга разважаў голасна сам з сабою.

Аб чым?

Нікому гэтага чуць не давялося...

**Звончык.**



# Ці на зямле, ці пад зямлей... „апякун“ усе за табой.



Кожны дзеяч беларускі
Вельмі добра ужо знае,
Што „анёла-апякуна“
За плячыма усьцяж мае



Нават ночнаю парою
Неяк сьніцца ў сьне панура,
Бо усьцяж цябе пільнуе
Таямнічая „фігура“.



Ў месьце ўжо няма спакою
Можа ў вёсцы яго знойдзеш?
А „фігура“ ўсьцяж з табою,
Дзе ні глянеш, дзе ня пойдзеш.



Хочаш ў лесе на прыродзе
Адпачыць, сапнуць, забыцца,
Толькі вось тае „фігуры“
Ніяк ня можаш ты пазбыцца,



Ў страху дзеяч, як шалёны
Уцякае, як ад буры,
Бо за дрэвам усьцяж сочаць
Таямнічыя фігуры.



Сярод лядоў, сьнягоў вялікіх,
Дзе ня была нага людзкая,
Ен тут вольна адпачыне
І спакою тут дазнае.

## Страх мае вялікія вочы.

На вуліцы спатыкаюцца два беларускія студэнты (у скобках кажучы, у польскіх *рогатувках*):

— Ці чуў ты?
— Што?
— Бяда?
— ???
— Прапалі!
— ???
— Нячуванае нешчасьце!
— ???
— Згінем як мухі!...

— Кажы хутчэй — перабіў яго калега, у якога са страху задрыжалі лыдкі, а валасы падняліся і не зьмяшчаліся пад белай шапкай.

— У нас у „Саюзе“ ляжыць некалькі нумароў „Маланкі“.

— Дык што-ж за страх? — Гэта-ж легальная і досіць цікавая часопісь.

— Але-ж... але ж гэта... ко... ко... дрыжачым голасам прашаптаў яму на-вуха калега.

— Absurdum, colego! Нічога страшнага!

— Як нічога?! Барані Божа знойдуць у нас „Маланку“ перад першым мая, — капут тады!

— Прападзем!
— Згінем!
— Ідзем выносіць „Маланку“.
— Ідзем!

Бедная „Маланка“! — Усюды ганяюць, усюды сьмяюцца; ну проста хоць крыкні:

Ратуй!

* * *

Адзін беларускі дзеяч (здаецца быўшы) — асоба якая блізка стаіць да аднэй з беларускіх рэдакцыяў, будучы ў Вільні, зайшоў да нашае рэдакцыі, дзе адтрымаў адзін нумар „Маланкі“ gratis.

Ідучы па дарозе, кожны раз, як толькі спатыкаў паліцыянта, або чыноўніка ў форменнай шапцы, ці нават каго-колечы ў „штацкім“ падазроннага выгляду, кожны раз нэрвова хватаўся за кішаню, ў якой ляжала „Маланка“ як-бы там знаходзілася бомба, Але няшчасьце мінала яго і ён спакойна йшоў далей.

Прыйшоўшы дамоў, казаў жонцы завесіць вакно і тагды дрыжачай рукоў выймаў „Маланку“ і шэптам чытаў яе для жонкі і дзяцей.

— Чытай голасна, — прасіла яго жонка. Гэта так прыгожа, а я добра ня чую.

— Ня можна, душачка. Ведаеш, „Маланка“ гэта... гэта... ўжо два разы конфіскованая. Барані Божа даведаюцца, што мы „Маланку“ чытаем...

— Згінем!
— Прападзем!
— Капут! Капут!..

* * *

— Ксёндз-пробашч, парадзьце што маю рабіць? — сын мяне ня ня слухае...

— А што?

— Вашых „Przeglądów Katolickich“ і ў рукі браць ня хоча. Выпісаў сабе „Маланку“; дзень і ноч чытае, дый носіцца з ёю па вёсцы, як кот з салам.

— *О згрозо!*

— Стаўпатварэньне Вавілонскае!

— Канец сьвету!

**Барыс М.**



# Зашмат паноў.

То ня байка, шчыру праўду
Вось хачу Вам расказаць:
Давялося ў гэтым леце
Мне ў мястэчку пабываць.

Купіў солі, шмаравідла;
Хоць каб грошай было шмат,
Дык цягаўся-б, а так—збрыдла,
Ну, пайду, кажу, да хат.

Памыліўшы Сроля крамку,
Бачу з левай стараны,
Сядзючы сабе на ганку,
Чай п'юць нейкія паны.

Морда тая быццам цёрла,
Жруць каўбасу, як каты,
Мне аж сьлінку, брат, папёрла,
Каб ім сьпёрла жываты.

Ось, каму, браткі, жывецца!
— Я аж стаў напроці ганку —
Сьпіць, падняўшыся, напрэцца
Дый ня то каб абаранку

Зьеў, ці булку там якую,
Не, катлеткі, мяса жуе,
А ты топчаш бульбу тую
Дый яе падчас бракуе.

Сьціснуў зубы я ад злосьці,
Эх, няроўна Бог мяркуе:
Робіш, ледзь трымаюць косьці,
Ён-жа сабе не працуе.

Хлеб твой есьць, а ты бяз хлеба,
Дый каб што! з цябе-ж сьмяецца:
„Бач, як хамам вунь жывецца“!
Ты-ж трывай, бо мусіш... трэба!

Выйшаў зараз за мястэчка:
Сонца, птушкі, тое поле...
Ўздрыганулася сардэчка —
Эх, каб чуць ды лепша доля!

Пхнуся далей, бы дубовы,
Ў сваю родную старонку...
Чую енкат: „Хлопцы, што вы!
Гэй, людцы, хутчэй ратунку!“

Падбягаю, бачу, з воза —
Хто за руку, хто за ногу,
Хто кулак суне да носа, —
Цягнуць нешта на дарогу.

— Га! папаўся, кажа, зуху,
Азярэда ты, цыбаты!
Хведар, дай яму па вуху!
— Ты кулак, буржуй-багаты!

Ой цікавы быў малюнак,
Бы карову цягнуць тую,
— Я вас, кажа, ў пастарунак
То-ж я солтыс, арыштую!...

— Солтыс? хлопцы, дык чакайце,
Так цягайма, біць ня будзем.
Вы-ж, паночку, выбачайце,
Што мы храк ваш запашкудзім.

І рагочуць — ах галота!
Калі гляну: крыж мой боскі,
У пяску, як чорт з балота,
Бедны солтыс з нашай вёскі.

Гіцлі! воз з канём сапхнулі
У канаву... матка ў возе,
А начальніка сьцягнулі
І валочаць па дарозе.

Ды такі-ж ён зухаваты,
Аж мне шкода яго стала,
А яны крычаць: „Шчарбаты!
Ну як, досіць, ці замала?“

Як, кажу, ці можна біці, —
Дый за што, калі нявінны?
Не хацеў, кажа, змыліці:
„Солтыс я, дык вы павінны“.

Лаяў, кажа, вон з дарогі,
Басата вы, хамы, чэрці!
Тыя-ж пана — цап за рогі
Дый давай па носе церці.

Бач, паноў як разьвялося;
Каб хто?—солтыс зазнаецца...
Няма дзіва, што так дрэнна
Бедняку цяпер жывецца.

*М. Балазей.*

# Каторая гадзіна.

— Што гэта ў вас такі чырвоны твар?

— А бо бачыш, іду сабе да хаты, дый пытаюся ў нейкага прахадзячага: каторая гадзіна? а ён мне кажа, што першая, ды бух мяне ў твар... трасца-б яго мардавала...

— Вось шчасьце, што была тады першая, а не дванаццатая гадзіна.



# Худыя гусі.

*Судзьдзя:* Дык падсудны прызнаецца, што два разы падкраўся да хлява суседа, аднэй ночы ўкраў дзьве гускі, а на другую ноч назад іх аднёс. Мусіць сумленьне не давала табе спакою?

*Абвінавачаны:* Не, пане судзьдзя, калі гусі былі яшчэ худыя.



## У СУДЗЕ.

— Ваша прозьвішча?

— Янка Наўкасяк.

— Якая ваша прафэсія?

— Дый які я там прафэсар, просты селянін ды толькі.

— Ці пачуваецеся да віны? Якія маеце за сабой грахі?

— Жонка і пяцёра дзяцей.



# Сураежачка.

Пры пянёчку у гаечку
Сураежачка стаіць.
Чуець бедная ў лясочку
Хтосьць завець каго, крычыць.

Паліліся ў беднай сьлёзкі,
Бел-гарошачак нібы,
— Пэўне, — думаець, — ад вёскі
Ідуць бабы па грыбы!

Чуець голас прыбліжаецца,
Да пянёчка ўжо ідуць,
Сураежачка пужаецца:
— Ой вазьмуць мяне, вазьмуць!

* * *

Пры пянёчку у гаечку
Сураежачка стаіць.
Хлопец з дзеўкай на пянёчку
Абнімаецца, сядзіць.

Ой, прапала сураежачка:
Абмярцьвела чуць жывець,
Чуець, беднай, яе сэрдачка,
Што ў кашолку пападзець!

— Пажалей мяне, кляновенькі лісток,
Ад вока злога захавай,
Адгаджуся чым захочаш ты, браток
Ай, накрывай-жа, накрывай!

* * *

Пры пянёчку у гаечку
Сураежачка стаіць,
З пад кляновага лісточка
Яна боязна глядзіць.

У лясочку ўжо шарэецца.
Хлопец з дзеўкаю прапаў.
—Дзякуй,—кажаць сураежачка,—
Што мяне, лісток, схаваў!

Відаць доўга мяне йскалі
Злыя людзі па зямлі:
Бач, траву як пакачалі,
А мяне ткі не знайшлі!

**Я Башкір.**



# Верная жонка.

Паміраўшы гаспадар, бачачы, што жонка яго горка плача, пачаў даваць ёй рады:

— Раджу табе, мая даражэнькая, калі я памру, для карысьці нашае гаспадаркі, прыдзецца табе ўзяць за мужа нашага парабка Івана, Ён добры работнік, знаецца на гаспадарцы.

— Ого! Я аб гэтым ужо няраз думала, — адказала „верная“ жонка.



## Певень зьнёсься.

Малая Марылька любіла шукаць яйкі, якія нясьлі куры па закутках. Яна бегала з кожным яйком да хаты і ўжо здалёку крычала, што курка зьняслася. Аднаго разу знайшла яна гусінае яйко, якое, як ведама, у кольлі разой большае за курынае.

— Мамачка! мамачка! Я знайшла яйко! Але гэта певень зьнёсься, паглядзеце, якое вялікае!..



## Лёгічна.

— Вы не павінны многа піць. Вам, напэўне, вядома, што алькоголізм пераходзе на патомства?

— Я гэта ведаю, доктар, але ў мяне шасьцёра дзяцей, дык на кожнага з маіх патомкаў агулам прыходзіцца невялікая порцыя алькоголю. Не пашкодзіць!



## Усе кілямэтры пабралі.

(*Аўтэнтычна*).

У часе адступленьня польскага войска з Заходняе Беларусі, жаўнеры часта забягаліся да сялянскіх хатаў, просячы чаго-колечы паесьці.

Раз, праходзячы праз адну вёску Н-скага павету, жаўнер пытае ў бабы, якая стаяла каля свае хаты:

— Іле кілямэтраў да Нясьвіжа?

Баба, думаючы, што ён чаго просіць есьці адказала:

— Няма, паночку! Немцы бралі, паны бралі, — ўсе кілямэтры пабралі...

Віи.



## У цырку.

*Сын*: Глядзі, тата, во леў. Кажуць людзі, што гэта вельмі страшны зьвер, — ён есьць людзей.

*Бацька*: Э-гэ, гэта можа дзесь там у цёплых краёх, а ў нас людзей зьядае падатак.



## У школе.

*Поп*: Скажы мне, Данілка, хто на сьвеце ёсьць наймудрэйшы?

*Данілка*: Вы, бацюшка!

*Поп*: Чаму-ж гэта:

*Данілка*: Бо як мая мама памёрла, дык усе людзі плакалі, толькі вы з дзяком пялі.





## Шлюбная абвестка.

Яшчэ паненка чароўнай прыгожасьці і сярэдняй сьвежасьці, з прычыны вясны, шукае сабе праз «Маланку» мужа, якому можа аддаць свае кахаючае сэрца і ідэальна — паэтычную душу.

Мужчыны сьпяшайцеся!

Замест пасагу, дам усе нумары „Маланкі“.

---

Крапіва.

## Дзьве кумы.

— Ну, як-жа, кумка, маецца?
Кума ў кумы пытаецца.
— І ня пытайся лепш, кума:
Цяпер-жа ведаеш сама, —

Што дзень пражыў, то й дзякуй Богу,
Ня міла, кумка, нек нічога,
Нічога нек і не на ўме, —
Адказвае кума куме.

—Канчына сьвету, кажуць, блізка:
Вось кажуць (чула-ж можа й ты?)
Радзіла чорта камуністка;
Ёсьць рогі, хвост і капыты...

— Ды як ня чуць? — я чула гэта,
Расказвала мне цётка Тэкля,
Казала, што за гэта лета
Чарцей было-б тут, як у пекле,

Але таго Бог не дапусьціць —
Ён кару на людзей напусьціць,
Тады народ увесь пагіне,
Мо' толькі аднаго пакіне

На сьвеце Бог, ці двух, як Ноя...
Каб, здэцца, кумка, нас з табою.
Хадзем маліцца хіба мы,
Каб Бог грахі нам адпусьціў, —
Каб кары к нам не дапусьціў,
Сказалі разам дзьве кумы.



## Нашла каса на камень.

Ксёндз-пасол Х зайшоў разам з паслом-рабінам У да рэстарацыі на вячэру.

Ксёндз заказаў сабе сьвіныя катлеты, а рабін толькі гарбаты. Як падалі на стол, ксёндз прапануе рабіну пакаштаваць катлету.

— Я не магу, гэта сьвіная, а мне рэлігія не пазваляе.

— Ах, калега, каб вы ведалі, як гэта смачна!

Ксёндз меў добры апэтыт, а па зьедзеных катлетах захацеў яшчэ шынкі.

Падалі шынку. Ксёндз зноў прапануе рабіну пакаштаваць шынкі, але той адмаўляецца, што яму забараняе ягоная рэлігія.

— Шкада, калега, а гэта вельмі смачна! — дадаў з ірoніяй ксёндз.

Пасьля шынкі ксёндз яшчэ папрасіў каўбасы і таксама просіць рабіна пакаштаваць.

— Пане калега, — адказвае пасол-рабін, — што вы мяне прымушаеце, вы-ж ведаеце, што нам рэлігія гэтага не дазваляе.

— Сьмешная рэлігія, — падсьмейваецца ксёндз, а каб вы ведалі, як гэта смачна!

На развітаньне ксёндз сьпяшаецца да дому.

— Куды вы? — дзівуецца рабін, — да жонкі?

— Не, я ня маю жонкі.

— Чаму?

— Бо мне рэлігія не пазваляе,

— А! а, ведаеце, пане калега, як гэта смачна.

Вій.



## Добра адказаў.

Нябошчык Брус, слаўны сваімі прадказаньнямі пагоды, ў часе свае падарожы па Беларусі, наняў селяніна адвязьці яго да бліжэйшай станцыі.

— Пачакайце, паночку, — кажа селянін, зараз пайдзе дождж, а як перастане, тагды паедзем.

Брус выняў беларускі каляндар Янкі Маланкі, паглядзеў ў яго, дый кажа:

— Што ты здурнеў, чалавеча, ці што? — тут-жа напісана маё прадказаньне, што сёньня добрая пагода і ніякага дажджу ня будзе.

— А, бо бачыце, — адказвае яму селянін, мы даўно переканаліся, што як у календары напісана дождж, дык, значыцца, добрая пагода, як напісана добрая, — дык напэўна будзе дождж і во бачыце якая навальніца прыпусьцілася.

# Найнавейшы спорт.




Мераючы скорасьць.—

**Даляр:** Ужо я зрабіў 9, 30 пунктаў і хутка імчуся ўсё далей, а ты, калега, чаго застаешся.

**Міністар Скарбу—Зьдзехоўскі:** Бадай яе халера гэтакую маю кабылу! — што ўбіў, то ўехаў: крок наперад, два назад. Дже-ж мне дагнаць цябе на тэй шкапе!

### З ВАГНЯ ДЫ Ў ПОЛЫМЯ.

— Як быў міністар Грабскі, дык я хадзіў бяз ботаў.

— А цяпер, за часаў Зьдзехоўскага?

— Мусіць зусім здохну.

### НАШЫЯ ДЗЕЦІ.

— Нашто-ж ты, Паўлючок, б'еш сваю сястру Ганульку, — яна-ж яшчэ маленькая.

— А, бо як падлясьце, дык тады ня дасьць біцца.

### ПРЫХВАТКАМ.

— Як ты сьмееш цалаваць маю жонку, ды яшчэ ў белы дзень?

— Ну то-ж калі?. Уночы-ж няма як!



Рэдактар-выдавец **Янка Касяк**. Друкарня Б. Клецкіна, Вільня